© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 43 (1589) ГОД XXXI БЕЛАСТОК 26 КАСТРЫЧНІКА 1986 г. ЦАНА 10 зл.



Гарадоцкі калектыў на Свяце беларускай культуры ў Беластоку. Амфітэатр, 15 чэрвеня 1986 г.
Фота С. Грынявінкага.

## За далейшыя дасягненні

На ўрачыстае адкрыццё чарговага культурна-асветнага года ў дзейнасці БГКТ, якое адбылося ў Гайнаўскім доме культуры „Гурнік", сабраліся дзеячы таварыства, сярод якіх было шмат настаўнікаў беларускай мовы, удзельнікаў мастацкіх калектываў, членаў праўлення асобных аддзелаў. Усіх іх сардэчна прывітаў член Прэзідыума ГП, дырэктар Гайнаўскага беларускага ліцэя Аляксандр Іванюк.

Пасля гэтага сакратар ГП БГКТ Віталій Луба прадставіў узнагароджаных па прапанове Прэзідыума ГП. Бронзавы знак „За заслугі ў ахове публічнага парадку" быў уручаны члену харавога калектыву з Рыбалаў, пажарніку Мікалаю Ігнацюку, а сярэбраная адзнака „Заслужаны для Беласточчыны" — удзельніцы харавога калектыву з Вулькі Тэрахоўскай Валянціне Вярэмчук. Узнагароды былі ўручаны намеснікам начальніка горада Гайнаўкі — Ядвігай Рудзінскай-Патэюк.

Залатымі значкамі ТППР удэкаравала Таіса Фацеева, працаўнік Ваяводскага праўлення ТППР, членаў харавога калектыву з Гарадка — Галіну Кандрусік і Галену Кот, а дыплом ГП БГКТ з рук яго старшыні д-ра Аляксандра Баршчэўскага атрымаў дзеяч БГКТ з Вулькі Нурэцкай Мікалай Кусачук.

Аб дзейнасці БГКТ у культурна-асветнай галіне гаварыў у сваім выступленні старшыня БГКТ. У мінулым культурна-асветным годзе, адзначыў ён, назіралася павышаная актыўнасць нашых членаў. Спраўна былі праведзены конкурсы на беларускую песню, а асабліва фінальны агляд у Беластоку. Было рэактывавана навучанне беларускай мовы і павялічылася ў некаторых мясцовасцях колькасць вучняў, вывучаючых родную мову. На гэтыя справы неабходна надалей звяртаць бачную ўвагу. Варта таксама папулярызаваць як найшырэй так званыя Дні беларускай культуры і святкаванне Купалаўскай ночы, якія запачаткаваў гарадскі аддзел БГКТ у Беластоку.

Усё больш і больш паяўляецца ў краіне і за мяжой ахвярадаўцаў на Музей помнікаў беларускай культуры і рэвалюцыйнага руху, які будуецца ў Гайнаўцы, гаварыў далей Аляксандр Баршчэўскі. Назіраецца таксама павышанае зацікаўленне беларускім аддзяленнем у Варшаўскім універсітэце, на якое ў гэтым годзе было ў тры разы больш ахвотных, чым месц. Сёлета прынята 14 студэнтаў, хаця планавалі прыняць толькі дзесяць асоб. Сярод студэнтаў ёсць таксама 1 паляк, 1 украінец, 1 літовец і 1 яўрэй. Орган ГП БГКТ „Ніва" добра спраўляецца са сваімі выхаваўча-прапагандысцкімі абавязкамі. Нашы літаратары неўзабаве змогуць утварыць беларускі аддзел Саюза польскіх пісьменнікаў (калі толькі яшчэ адна асоба будзе прынята ў члены СПП). Так гаварыў старшыня ГП БГКТ пра нашы плюсы, пра нашы дасягненні.

Але, на жаль, ёсць і адмоўныя бакі нашай дзейнасці. Недастатковая яшчэ колькасць школ, у якіх навучаецца беларуская мова, а там, дзе яна і ёсць, то не ўсе вучні вывучаюць яе. Тыраж „Нівы" нізкі, не ўсе члены БГКТ з'яўляюцца яе падпісчыкамі, недастаткова ўдзельнічае ў дзейнасці БГКТ наша моладзь. У Гайнаўцы ўжо два гады не арганізоўваецца беларускі фэстын, хаця ёсць тут шмат дзеячоў БГКТ і дасканалы амфітэатр. У Міхалове назіраюцца абыякавыя адносіны мясцовых

(Працяг на стар. 5)

## Плён, абліты потам

За намі чарговае лета і цяплейшая частка восені. Плён, абліты сялянскім потам, ужо ў элеватарах, свірнах і клунях. Можна тады пагутарыць аб выніках сялянскай працы.

Віцэ-ваявода беластоцкі Юльян Сляжынскі на прэс-канферэнцыі 30 верасня г.г. даволі высока ацаніў беластоцкіх хлебаробаў. Ён заявіў, што сярэдні ўраджай чатырох асноўных збожжавых культур (жыта, пшаніцы, аўса і ячменю), ва ўсіх дзялянках вясковай гаспадаркі (сялянскай, спулдзельчай і дзяржаўнай) ацэньваецца на ўзроўні мінулагодняга ўраджаю. Дакладна — 23,7 цэнтнера з кожнага гектара пасеваў. Так у жніўні вылічылі спецыялісты з ваяводскай статыстычнай управы. Ён, аднак, на 0,4 ц/га ніжэйшы ад мінулагодняга ўраджаю. Розніца, здавалася б, зусім невялікая, бо не сягае і паўцэнтнера на гектары, адзін невялікі мяшок збожжа. Калі аднак гэты невялікі „мяшок" памножыць на агульную плошчу, засеяную збожжам, дык тады мы пераканаемся, што Беластоцкаму ваяводству не хапіла больш за сто тысяч цэнтнераў збожжа. Гэта так, як бы 4400 га ў гэты час ляжала аблогам. Вось што абазначае недаімка сарака кілаграмаў ураджаю на кожным гектары ў адным толькі Беластоцкім ваяводстве!

Пачалося ўсё ў студзені і лютым, калі азіміну тоўстым і шчыльным дыванам прыкрыў на доўгі час густы снег. Завялася плесня. Яна знішчала збожжа, але пакідала пустазелле, асабліва пырнік. Калі б пазней прымяніць гербіцыды... але іх не было, бо яны за валюту, а калі і былі, дык не ўсім сялянам хацелася купляць, бо гербіцыды вельмі дарагія. От, згніло там крыху пшаніцы, дык Бог з ёю. Ад голаду не памрэм! А гэтыя „крыху", калі скласці разам, вось і дае больш за сто тысяч цэнтнераў.

25 красавіка пачалося і прадаўжалася аж да 20 мая засушлівае надвор'е. Гэтыя даты падаю я наўмысна, бо хто хаця крыху арыентуецца ў цыклічнасці сялянскай працы, той ведае, што ў другой палавіне красавіка і ў пачатку мая вельмі патрэбны часты дождж, бо тады якраз узыходзіць збожжа і

(Працяг на стар. 4)

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

# ПЕРАД ДРУГІМ РАЎНДАМ

На юбілейным вечары Сакрата Яновіча, які наладзіла ГП БГКТ 4 кастрычніка ў Ваяводскім доме культуры ў Беластоку, найбольш уразіла мяне прызнанне юбіляра, што ў юнацтве прабаваў ён сваіх сіл у боксе. Вытрываў Сакрацік на рынгу да першага тэхнічнага накаўта. Якая непадобнасць на спелага Сакрата! Не ўяўляў ён у той час, што пісьменніцкае адзінаборства — той жа кулачны бой, толькі з хітрэйшымі пасткамі, часцейшымі падножкамі, мацнейшымі ўдарамі ніжэй пояса і па патыліцы. І куды большая патрэбна тут валявая вытрымка, стойкасць, самаадданасць, цярплівасць. Усе гэтыя якасці ў наяўнасці ў Сакрата Яновіча. Выступілі яны і ў яго расказе аб гісторыі сваіх кніжак, якая магла б быць канвой займальнага апавядання. Розныя закуткі выдавецкай „кухні", якія адкрыў слухачам пісьменнік, былі натуральным працягам сяброўскіх развагаў (не даклада) Надзеі Артымовіч аб творчасці юбіляра і стварылі адпаведны настрой для ажыўленай гутаркі аб віноўніку ўрачыстасці і аб літаратуры наогул. Заслуга ў тым і вядучага на вечары Янкі Морданя, які абмежаваў цырыманіял юбілею да прыстойных памераў і даў поўную свабоду юбіляру і яго гасцям. Многа было свойскага на гэтым вечары, як заўсёды, калі збяруцца прыязныя сабе беларусы.

Ушанаваць пісьменніка прыйшлі сябры па пяру — „белавежцы", і старыя актывісты БГКТ, і моладзь. Не адчувалася ніякай узроставай адчужанасці. І дарма аўтар „Загонаў" наракаў на мізэрныя ўзыходы свайго пасеву на беларускай глебе (маўляў, сярод палякаў ён больш вядомы); яго сустрэчы з чытацкай публікай у іншых раёнах Польшчы адбываюцца ў выбраных клубах (куды традыцыйна прыходзяць аматары і калекцыянеры кніжкі) і іх нельга параўноўваць з выпадковымі спатканнямі на Беласточчыне. Іншая справа — слабая начытанасць нашых людзей. Але гэта асобная тэма.



Зуброўнік павялічваецца. Сакрат Яновіч — трэці „белавежац", які атрымаў белавежскага зубра (уручае сакратар ГП БГКТ Віталій Луба).



— Калі пачынаў я пісаць, думаў, што творчы працэс — гэта малітва...



Пяцідзесяцігадовы стары найлепш адчувае сябе сярод маладых.

Здзівіў юбіляр і стомленасцю гадамі. Калі сакратар ГП БГКТ Віталій Луба ўручаў С. Яновічу традыцыйнага ўжо на юбілеях „белавежцаў" рэзбленага зубра і жадаў далейшых творчых поспехаў, той адрэагаваў глухім голасам: „Якія могуць быць поспехі пасля пяцідзесяці гадоў!"

Поза, увасабленне ў ролю пяцідзесяцігадовага старога? Будзем спадзявацца, што гэта часовая, юбілейная расслабленасць, і праміне яна з апошнімі пажаданнямі і парадамі на далейшы паядынак, і зноў мы ўбачым Сакрата між літаратурнымі канатамі ў прывычнай стойцы. 50 год — гэта толькі першы раунд, разведка боем, асноўнае наступленне наперадзе.

Г. Валкавыцкі
Фота С. Грынявіцкага



Ветэраны прызадумаліся.



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020




## ХАЧУ, КАБ УСЕ ЛЮДЗІ БЫЛІ ДОБРЫМІ

Грамадзянін рэдактар, на вашыя рукі складаю сардэчную падзяку Мікалаю Панфілюку за актыўную абарону маралі Савецкай Арміі (Адгалоскі, „Ніва" з 10 жніўня 1986 г.). Але я ўпэўнены, што Савецкая Армія з кожнага боку, у тым ліку і маральнага, такая магутная, што не баіцца маіх „атакаў" і не патрабуе такіх абаронцаў, як М. Панфілюк. А калі хто хацеў мяне скампрамітаваць, дык дарма патраціў сілы. Я сам аб сабе ўсё напісаў і то ў кніжцы.

Мне асабіста шкада М. Панфілюка таму, што ён лёгкаверны і часта выказвае не свае думкі. Ён піша пад уплывам дрэнных, але хітрых асобеняў. А які загаловак! Ён, гэты загаловак, хацеў чытачам адразу ўнушыць, які то я немаральны ілгун. Аднак на самай справе ён б'е проста ў нос яго аўтара, які не чытаў „Жывых і мёртвых" К. Сіманава ды не бачыў фільма „Лёс чалавека" паводле М. Шолахава. Я не браў з нікога прыкладу і не хацеў кампраметаваць савецкага салдата, бо сам ведаю, да чаго можа давесці голад. Маёй мэтай было: паказаць нявыдуманую ненажэрлівасць людзей, якія ахвотна карыстаюцца чужой бядой. Я ўсведамляю сабе тое, што тыя чаравікі ўжо бокам вылазяць гэтаму чалавеку, але я пішу без злосці і без нянавісці да каго-колечы. Мне хочацца, каб усе людзі былі добрымі. З той мэтай я і паказваю дрэнныя схільнасці свае і іншых. На тое я і кніжку напісаў. І я буду заўсёды з М. Панфілюком гаварыць, як зямляк з добрым земляком, а ён, убачыўшы мяне, хаваецца. Чаму? Хіба таму, што кот заўсёды ведае аб з'едзеным сале.

**Васіль Петручук**

## БЕЛАРУСІКІ

**1970**


Hryckiewicz Anatolij: Warowne miasta magnackie na Białorusi i Litwie. Tłum. Józef Dancygier. Przegląd Historyczno-Oświatowy 1970 z. 3 s. 428—444.

Kosińska Gabriela: W białoruskim gimnazjum (w Wilnie). Fragm. wspomnień. Więź 1970 nr 6 s. 99—105.

Reychman Jan: Nowe prace o zabytkach piśmiennictwa polsko-białoruskiego pismem arabskim. Przegląd Orientalistyczny 1970 nr 4 s. 344—353, ilustr.

Turska Halina: Leksykalne pożyczki białoruskie w języku polskim (doba staropolska). Sprawozdania z Prac Naukowych Wydziału Nauk Społecznych. Polska Akademia Nauk 1970 z. 2 s. 77—92.

Żurawski A.J.: Historia bielaruskaj litaraturnaj mowy. T. 1. Mińsk 1967. Rec.: Obrębska-Jabłońska Antonina, Slavia Orientalis 1970 nr 2 s. 226—228.


Гістарычная секцыя ГП БГКТ запрашае на даклад д-ра Яўгена Гванца на тэму „Нацыянальнасць і культура старавераў", які адбудзецца 30 кастрычніка г.г. (чацвер) у 17 гадзін у Доме настаўніка ў Беластоку, вул. Варшаўская 8.

СВОЙСКІЯ МАЛЮНКІ



Старая хата на вул. Войска Польскага ў Боцьках. Графіка У. Петрука.



## „ШЧАСЛІВЫ, БО ЎСЁ РАЗУМЕЎ ПА-БЕЛАРУСКУ"

**(Размова з навуковым супрацоўнікам Школы Славяназнаўства Лонданскага універсітэта, старшынёй Брытанска-беларускага таварыства Джэймсам Дынглі, які ад 9 да 19 верасня знаходзіўся ў Польшчы па запрашэнні факультэта русістыкі і прыкладной лінгвістыкі Варшаўскага універсітэта.)**

**Пытанне:** Вы з'яўляецеся вядомым даследчыкам беларускай літаратуры і гісторыі. Раскажыце аб шляхах, якія вас — радавітага англічаніна — прывялі да беларусазнаўства?

**Адказ:** У палове шасцідзесятых гадоў я быў студэнтам Кэмбрыджскага універсітэта, вывучаў рускую літаратуру і мову. Праўда, ужо тады чуў аб Беларусі, але нічога канкрэтнага аб ёй не ведаў. Пасля працаваў у Брытанскім музеі ў Лондане і сутыкнуўся з беларускімі уніятамі, якія мелі сваю царкву і зародыш Беларускай бібліятэкі ў Лондане. Спачатку паверхнаснае знаёмства з беларускай літаратурай, мовай і гісторыяй, што называецца „заразіла" мяне, зняволіла, і я рашыў усур'ёз займацца беларусікай. Пачаў утрымліваць сціслы кантакт з лонданскімі беларусамі, з усё болей магутным навуковым цэнтрам — Беларускай бібліятэкай і музеем імя Ф. Скарыны ў Лондане.

У 1965 годзе я далучыўся да тых англічан і беларусаў, якія пачалі выдаваць сур'ёзны навуковы англамоўны часопіс The Jurnal of Byelorussian Studies, прысвечаны беларускай гісторыі, мове, культуры і літаратуры. У гэтым жа годзе ў Беларускай бібліятэцы былі арганізаваны для англічан і беларусаў першыя беларусазнаўчыя курсы. У 1966 годзе я пераехаў у Рэдынг, дзе стаў загадчыкам кафедры рускай філалогіі Рэдынгскага універсітэта, аднак сувязей з беларускім лонданскім цэнтрам не толькі не спыніў, але іх інтэнсіфікаваў.

**Пытанне:** Можа, шырэй ахарактарызуеце часопіс The Jurnal of Byelorussian Studies?

**Адказ:** Часопіс гэты з'яўляецца гадавіком. Стараемся выдаваць яго рэгулярна. У сярэднім налічвае ён 100-120 старонак. Галоўныя напрамкі публікацый: гісторыя Беларусі з асаблівай увагай да Вялікага княства Літоўскага, а таксама навейшая гісторыя; літаратуразнаўчыя артыкулы, мовазнаўства, беларускае мастацтва і культура. Наш часопіс мае адкрыты характар. Прыцягваем да супрацоўніцтва вучоных з розных краін свету. Між іншым, з польскіх вучоных публікавалі ў нас Е. Ахманскі, А. Барташэвіч і вы, а таксама даследчыкі з Амерыкі, ФРГ, Ізраіля. Часопіс наш распаўсюджваецца ў многіх краінах свету, між іншым, у БССР.

**Пытанне:** Брытанска-беларускае таварыства супольна з Беларускай бібліятэкай і музеем імя Ф. Скарыны з'яўляюцца аргані-

**(Працяг на стар. 6)**

## ПЛЁН, АБЛІТЫ ПОТАМ

(Працяг са стар. 1)

замацоўваецца яно карэннямі ў зямлі. Засуха спыніла ўзыходы аўса і ячменю. Калі збожжа неяк прабілася і пачалоналівацца ў калоссе, то тады, у пачатку ліпеня, настала невынослівая спёка. Збожжа заўчасна даспявала, не напоўніўшы як след свайго калосся. Жніво супала амаль з сенакосам. Да 15 жніўня, як ніколі дагэтуль, сяляне на Беласточчыне ўправіліся практычна з уборкай першага найважнейшага хлеба.

Віцэ-ваявода Юльян Сляжынскі казаў нам, журналістам, што ў гэтым годзе сяляне менш наракалі на працу эскаэраўскіх механізатараў, што свабаднейшы быў доступ да камбайнаў і снопавязалак. Здаралася нават і так, што камбайны з эскаэраў стаялі, чакаючы заказаў ад сялян.

Трэба адзначыць, што нашы хлебаробы ўсё болей прывыкаюць да карыстання з гэтых аграмадных, але вельмі дарагіх сельскагаспадарчых машын. У мінулае жніво пад косы і цапы камбайнаў пайшло на Беласточчыне ўжо нейкіх 15 працэнтаў жыта, ды 22 з лішнім працэнты пшаніцы і аўса. Да поўнага і паспяховага выкарыстання камбайнаў у полі не хапае нам, на жаль, базы для падсушкі збожжа.

Самым высокім ураджаем на Беласточчыне могуць пахваліцца гаспадары з гміны Бранск — 28,4 ц/га, затым у чарзе найлепшых стаяць па парадку: Драгічын — 27,7 ц/га, Пасвентнае — 26,8 ц/га, Гайнаўка — 26,7 ц/га і Тыкоцін — 26,3 ц/га.

Калі ёсць найлепшыя, значыць ёсць таксама і найгоршыя, якія цягнуць Беласточчыну ў ніз статыстычных паказчыкаў. Гэта горкая праўда і непрыемна гаварыць яе ў вочы. Непрыемна тым больш, што гэтыя найгоршыя пераважна знаходзяцца ва ўсходняй і паўднёвай паласе Беластоцкага ваяводства. Вось у Крынoцкай гміне ваяводскія спецыялісты не налічвалі нават 16 цэнтнераў збожжа з аднаго абсеянага гектара, у Гарадку — 16,3 ц/га, у Міхалове — 18,1 ц/га.

Палітычнаму і гаспадарчаму кіраўніцтву ў гэтых раёнах неабходна ўсур'ёз разабрацца ў прычынах гэтай адсталасці. Далей так не можа быць. Нельга безадказна марнатравіць тое вялікае дабро, якім з'яўляецца зямля. Хай яна па сваёй ураджайнасці і шмат уступае заходнім гмінам Беласточчыны, але гэта яшчэ не апраўдвае арганізацыйнай неахайнасці і лянoты нашай агратэхнічнай службы. Ёсць жа спосабы і на слабейшую глебу. Настала ўжо пара разлічваць вапроўскую і гмінную дарадчыя службы, а таксама ўсіх іншых ураднікаў, ад якіх залежыць абеспячэнне сялян сродкамі сельскагаспадарчай вытворчасці, разлічваць іх не за гадзіны ў „бюро", а за вы-



© PDF: Kamunikat.org 2020

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

## БЕЛАРУСКІ ФАЛЬКЛОР

### МАЛАДЫЯ І ГОСЦІ Ў ЧАС „ПЕРАПІВАННЯ“

Цікава, што ў апошнія гады ў тых песнях, у змесце якіх выступала слова „таляр“, замяняецца яно словам „даляр“. Чым гэта вытлумачыць? Проста тым, што таляр у свядомасці сёняшніх беларусаў ні з чым не асацыіруецца. Зусім па-другому выглядае справа з доларам, які стаўся сімвалам, канкрэтным знакам матэрыяльных вартасцей.

Па сутнасці, мы не ведаем паходжання назвы „перапіванне“. Пытаныя намі інфарматары гавораць, што ён звязаны „з папіваннем і ўсё“. Некаторыя даследчыкі тэрмін гэты звязваюць з тымі адлеглымі часамі, калі дзяўчыну маладому прадавалі, а пасля гэтага запівалі здзелку. Адсюль узялося перакананне, што дзяўчыну „прапівалі“. Пазнейшыя пакаленні знавелізавалі назву, забываючы аб гандлёвай трактоўцы вясельнага рытуалу ў адлеглым мінулым. Маладую пару ў часе „перапівання“ абавязваў сцісла акрэслены пратакол. Павінна яна была ўвесь час стаяць і трымаць у руках кілішкі, напоўненыя дружкай звычайнай вадой. Гэтая ж дружка ставіла перад маладымі трэці кілішак і напаўняла яго гарэлкай. Калі да стала падыходзілі асобы, якія хочуць узяць удзел у „перапіванні“, дружка праз хустачку брала кілішак і ўручала яго падышоўшай да стала асобе.

Для прыкладу, калі да стала падыходзілі бацькі маладой, дык найчасцей першая маці брала з рук дружкі кілішак разам з хустачкай і выказвала пажаданую формулу. Бацька ў той час або паўтараў за жонкай пажаданні або маўчаў і выказваў пажадальную формулу толькі тады, калі пераймаў з рук жонкі кілішак. Стукнуўшыся з маладымі кілішкамі, бацькі дэкларавалі суму грошай, або называлі жывёлу ці іншыя матэрыяльныя вартасці, якія намерваліся ўносіць у пасаг маладым. Наогул гаварылі аб тых прадметах і актывах, якія былі ўжо акрэслены ў часе ладоў. Аднак найчасцей да гэтых ужо вядомых маладым актываў дадавалі нешта новае. Чокнуўшыся чаркамі з маладымі, цалаваліся з імі, выпівалі гарэлку і адыходзілі назад. Іх месца займалі хрышчоныя бацькі — і рытуал паўтараўся.

Пасля падыходзілі сваякі, вясельныя чыны, радавыя вясельныя госці. Здаралася, што ў „перапіванні“ бралі ўдзел і „запарожнікі“ або нават выпадковыя падарожнікі, якія праязджалі або праходзілі праз вёску. Вядома, што іх дары былі наогул невялікія.

Існавала перакананне, што ўдзел у „перапіванні“ прыносіць карысць не толькі маладым, але і тым, хто дарыць, можа прынесці ў жыцці ўдачу і шчасце. Вось з гэтай прычыны да „перапівання“ часам гарнуліся зусім выпадковыя асобы. Абрад „перапівання“ ў многіх вёсках захаваўся да сёння. Выступае ён часта нават у тым выпадку, калі ўступаюць у сямейныя сувязі адукаваныя людзі. Некалькі гадоў таму назад давялося мне быць на вяселлі ў сваёй студэнткі, якая выходзіла замуж у роднай вёсцы Рыбалы. На вяселлі выступіў абрад „перапівання“ і мне асабіста таксама давялося ў ім прымаць удзел. Трэба агаварыцца, што сёння ўжо з гігіенічных меркаванняў да „перапівання“ кожны з гасцей падыходзіць з уласнай чаркай, якую дружка напаўняе гарэлкай. Варта яшчэ аднатаваць, што маладыя, як ужо было сказана, маюць у кілішках ваду і што ў адваротнасці да гасцей, якія поўнасцю выпіваюць налітую ім водку, маладыя толькі сімвалічна прыгубліваюць кі-

(Працяг на стар. 11)

## САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Сэрцайка! Я ўжо немаладая жанчына, але звяртаюся да цябе за парадай, бо маю клопаты з дачкой. Мая дачка яшчэ дзяўчына, ёй 22 гады. Цяпер яна ўжо працуе і зарабляе на сябе. Калі стала на працу пасля школы, пазнаёмілася з вельмі прыгожым хлопцам. Здаецца, яны пакахалі адзін другога. Два гады працягвалася іх сяброўства. А дачка мая была закаханая ўсё больш. А вось ужо два месяцы як сяброўства гэтае скончылася. Скончылася фактычна ад таго часу, калі дачка мая зацяжарыла і сказала аб гэтым хлопцу. Хлопец яе пачаў спачатку дамагацца, каб яна перарвала цяжарнасць. І тады яна вырашыла параіцца са мной.

Але што я ёй магла параіць? Каб перарвала цяжарнасць і, можа, засталася калекай на ўсё жыццё?... І таму я ёй адказала проста, што гэтую праблему мая дачка мусіць вырашыць сама. Тады яна сказала мне, што хлопец яе, калі яна пазбудзецца дзіцяці, будзе з ёю надалей. А калі ж вырашыць радзіць, тады, сказаў, няхай разлічвае сама на сябе. Мне ўдалося пераканаць дачку, што грош цана такому хлопцу, які ў такі момант кідае дзяўчыну, што так ці інакш, быў бы з яго кепскі муж і кепскі бацька. І так супольна мы вырашылі, што дачка мая дзіця будзе радзіць, а я, хоць выхоўвала яе ўсё жыццё адна, дапамагу ёй колькі будзе сілы.

Хлопец слова стрымаў: як толькі даведаўся аб рашэнні маёй дачкі нарадзіць дзіця, перастаў наведваць яе, не стаў званіць ёй на работу, не схацеў наогул знаць гэту, нібы каханую дзяўчыну. І вось цяпер сядзім мы, дзве самотныя, нешчаслівыя жанчыны і чакаем прыходу на свет нашага дзіцяці. Але часамі прыходзіць мне ў галаву такая думка, ад якой робіцца моташна. Гэта ж я ўсё ж параіла сваёй дачцы, каб не пазбывалася дзіцяці, гэта ж я ёй абяцала дапамогу. А вядома ж, што гэта будзе паўсірата. І, можа, шчасце ўсміхнулася б маёй дачцы, і той хлопец ажаніўся б з ёю, калі б зрабіла яна так, як ён хацеў гэтага, каб пазбылася дзіцяці, бо нібыта на дзяцей то яшчэ яны маюць мноства часу. Дапамажы мне, Сэрцайка, у гэтых сумных і маркотных маіх думках.

**Анеля**

Анеля! Хлопец, які свядома кідае дзяўчыну ў такім становішчы, у якім апынулася твая дачка, не паправіцца ніколі. І ўсе гэтыя размовы аб тым, што яшчэ зарана, што няма дзе жыць, што трэба вучыцца і г.д., не маюць рацыі быту ў параўнанні з такой цудоўнай і прыгожай справай, як прыход на свет новага чалавека (але таксама і ў параўнанні з той пагрозай, якая навісае над дзяўчынай, якая можа быць пазбаўлена назаўсёды мацярынства). Калі людзі кахаюць адзін другога, то няма для іх ніякіх перашкод у тым, каб быць разам: не перашкодзіць ні брак кватэры, ні вучоба, ні гады, ні веравызнанне. Значыць, той хлопец па-сапраўднаму не кахаў тваёй дачкі, і проста яна ў жыцці памылілася. Напэўна, не будзе ёй лёгка, але думаю, што твая рада не была кепская. Гэта ж, у канцы канцоў, не будзе дзіця нейкага бандыта ці гвалтаўніка, усё ж такі яна кахала гэтага чалавека і ты ведаеш, чыё гэта дзіця. І таму твая рада была як найбольш на месцы. А дачка, магчыма, яшчэ неяк пакіруе разумней сваім жыццём.

Толькі на гэтага ўжо хлопца няхай занадта не разлічвае. Многія дзяўчаты думаюць, што калі народзіць яна дзіця, хлопец дзіця палюбіць і ажэніцца з ёю. На жаль, жыццё дыктуе свае правы і такія развязкі здараюцца надзвычай рэдка.

**Сэрцайка**

## БЕЛАРУСКАЯ КУХНЯ

### БЕЛАРУСКАЯ САЛАТА

На салату трэба ўзяць 40 г сушаных баравікоў, 200 г пячонкі з ялавічыны, 2 кіслыя агуркі, 3 цыбуліны, 2 яйкі, 3/4 шклянкі маянезу, 3 сталовыя лыжкі алею, зеляніну, соль.

Сушаныя баравікі памыць у вадзе 2-4 разы, намачыць і зварыць у вадзе, у якой былі намочаны (ваду перад гэтым трэба працадзіць праз двайную марлю). Асобна звараную пячонку астудзіць і дробна нарэзаць. Дадаць падсмажаную на алеі цыбулю, кавалачкі кіслых агуркоў, палавіну маянезу і перац і перамяшаць са заранымі і пасечанымі грыбамі. Пасаліць, а перад падачай на стол паліць маянезам.

### САЛАТКА З ПЯЧУРЫЦ

На 400 г пячурыц (пячарак, гнойніц) патрэбна 1 цыбуля, 1-2 яйкі, 1 сталовая лыжка алею, палавіна чайнай лыжкі 2-працэнтнага раствору лімоннай кіслаты, соль.

Ачысціць пячурыцы, з капелюшоў зняць плёнку. Памытыя грыбы заліць гарачай вадой, дадаць раствор лімоннай кіслаты і зварыць. Звараныя пячурыцы і цыбулю нарэзаць скрылёчкамі, пасля чаго заправіць алеем, соллю і перцам. Падрыхтаваную масу палажыць горкай у салатніцу і ўпрыгожыць кавалкамі вараных яек.

### МІНСКАЯ САЛАТА

На 4 бульбіны трэба ўзяць 200 г пячурыц, 1 цыбуліну, 200 г кіслай капусты, 2 сталовыя лыжкі алею, палавіну чайнай лыжкі 2-працэнтнага раствору лімоннай кіслаты, 1 чайную лыжку цукру, зеляніну, соль.

Падрыхтаваць пячурыцы (як у папярэднім рэцэпце).

Звараную ў лупінах і адцэджаную бульбу парэзаць і змяшаць з пасечанай капустай і пячурыцамі, дадаючы цукар, алей і соль. Салату ўпрыгожыць зелянінай.

### ПЯЧУРЫЦЫ СМАЖАНЫЯ

На 600 г пячурыц трэба ўзяць лыжку мукі, 1 яйка, 3 сталовыя лыжкі цёртай булкі, алей, соль.

Падрыхтаваныя пячурыцы крыху падварыць і астудзіць. Пасля гэтага пасыпаць іх мукою, памачыць у яйка і ў цёртую булку, ды смажыць у вялікай колькасці тлушчу, як фрыткі.

**Гаспадыня**

## СОННІК

43

**Зёлкі** лекавыя — доўгае жыццё; збіраць — даход; сушыць — цябе чакае лячэнне; нюхаць — пустата і фанабэрыстасць.

**Ззянне** бачыць — шчаслівая будучыня.

**Зігзаг** — кампанія няпэўнай вартасці.

**Зіма** — вяселле з перашкодамі.

**Злодзей** — любоўныя прыгоды; злавіць яго — табе пагражае небяспека.

**Змова** — добрая пасада, праца, занятак.

**Змокнуць** — непрыемныя звесткі.

**Зморанасць** — справядлівая ўзнагарода.

**Змяя** — цябе акружаюць паклёпнікі і ворагі; лавіць — выхад з цяжкай сітуацыі; укус змяіны — бяда, гора.

**Знікнуць** — згубіць што-небудзь.

**Знішчэнне** — нешчаслівае каханне.

**Зняважаць** цябе — карысць, добры знак.

**Зняволеным** быць — цябе ачэрняць, абгавораць.

**Знаёмства** — непрыемнасці.

**Знайсці** што-небудзь — даход.

**Знакі** — патаемная любоўная прыгода; радзімы знак — благія звесткі.

**Золата** — замілаванне да пыхлівасці, пустаты; знайсці — спадчына; капаць — шчасце прыйдзе нечакана; плаціць золатам — спрэчкі з сябрамі; каваць — дабрабыт; красці — благія звесткі; насіць — асцярожнасць не пашкодзіць; раздаваць — запросіны; згубіць — цябе ашукаюць; атрымаць — ганьба, сорам.

**Зоркі** бліскучыя — шчасце; мутныя — цяжкасці, перашкоды; падаючыя — смерць у радні.

**Зубр** — упартасць.



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

# Зорка

СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



**На школьным ганку ў час развітання з „Зоркай“. Школа ў Крыўцы.**

## ДРУЖНЫЯ Ў ПРАЦЫ І Ў ГУЛЬНІ

Сіла горы пераверне — гаворыцца ў народнай прыказцы. Пацвярджае гэта наша жыццё на кожным кроку. Як ні бывае часам цяжка, напрыклад, у час рамонтаў вясковых школ! І рабочых не хапае, і матэрыялаў патрэбных няма, але калі за справу ўзяцца ўсім разам, усім дарослым і дзецям — кожную цяжкасць пераадолець можна.

Так было з рамонтам школы ў Гародчыне (Нараўская гміна). Цяжка было, але, як узяліся бацькі і дзеці, ды як дапамаглі яшчэ апекуны з сельскагаспадарчага гуртка, дык у школе зрабілася прыгожа і чыста.

А нядаўна паказалі гэта самае бацькі і дзеці са школы ў Крыўцы ў той жа гміне. За некалькі летніх месяцаў, нягледзячы на ўсялякія недахопы, зрабілі ў школе капітальны рамонт, памянялі падлогі і аканіцы, за сабраныя грошы купілі печку для цэнтральнага абагравання, самі яе замантавалі, разабраўшы перад тым старыя печкі. Цяпер школьны будынак, адсвежаны знутры і звонку, усміхаецца на свет белымі, свежа памаляванымі вокнамі, а самае галоўнае — цяпер у школе будзе цёпла і ўтульна.

Энтузіязм бацькоў перадаўся і дзецям. Памагалі, як умелі. А цяпер з ахвотай узяліся за вучобу. Каб весялей жылося, цікавей, запісаліся ў школьныя гурткі і арганізацыі.

Беларускую мову ў школе вывучаюць усе дзеці. Вучаць іх дзве настаўніцы — Аліна Пляскавіч і Надзея Міхальчук. Падручнікі ёсць, „Зорку“ чытаюць і выпісваюць таксама ўсе. Думаю, што хутка ўжо пачнуць прысылаць свае пісьмы на беларускай мове ў „Зорку“.

Частка дзяцей захапляецца фатаграфіяй. У школе ёсць пяць фотаапаратаў, павелічальнік і розныя хімікаты. Настаўнік Міхась Зубрыцкі добры спецыяліст, і хлопцы пры ім вучацца спрытна. Гурток мае намер абслугоўваць школьныя і нават гмінныя ўрачыстасці. Можа з часам удасца нават перайсці на самафінансаванне.

Гарцэры, хоць жывуць яшчэ багатымі ўспамінамі з летніх выездаў і супольнага адпачынку, узяліся за абсталяванне ў школе свайго гарцэрскага пакоя. Знайшоўся на паддашшы сімпатычны пакоік, нават з плітой, дзе можна будзе на кожны збор падрыхтаваць гарбатку. Гарцэрам гэта вельмі спадабалася.

— Будзем тут праводзіць свае зборы, — сказаў дружыновы Раман Внучко. — Кожны гарцэр будзе мець на полачцы свой уласны кубак, а зборы будуць больш прыемныя пры супольнай гарбатцы.

З лесу прывезлі ўжо бярозавыя пянькі, мастакі рыхтуюць дэкарацыі, а „Зорка“ чакае запрашэння на ўрачыстае адкрыццё гарцэрскага пакоя.

Настаўніца матэматыкі Ірына Граматовіч гуртуе вакол сябе заўзятых матэматыкаў. Як паказала апошняя візітатарская праверка, матэматыка ў гэтай школе пастаўлена на вельмі высокім узроўні.

Нядаўна ў школу прыйшоў новы дырэктар Сельвестар Мінскі. Малады чалавек, спартсмен са значнымі дасягненнямі (другое месца на агульнапольскіх спаборніцтвах настаўнікаў па плаванню), поўны запалу і ахвоты да грамадскай працы. Нічога дзіўнага, што школа пачала жыць спортам. Яшчэ да гэтага, у мінулым годзе і раней, школа мела добрыя вынікі асабліва па лёгкай атлетыцы. Вясною васьмікласнік Андрэй Карпюк, працуючы пад апекай настаўніка Рамана Внучко, заняў шостае месца ў ваяводстве ў шматбор'і ў кіданні на спаборніцтвах у Беластоку. Цяпер жа на школьным прасторным калідоры паявіўся тэнісны стол, ад якога не адыходзяць малыя тэнісісты. Будуць напэўна і вынікі. Хоць у Нараўскай гміне выбіцца ў лепшыя не так проста. Даўно ўжо славіцца поспехамі ў настольным тэнісе школа ў Трасцяніцы, а тут жа за ёю — школа ў Іванках. І ніколі Трасцянка не магла быць пэўнай, ці ўдасца ёй заваяваць першае месца. А цяпер будзе ў яе яшчэ адзін сапернік.

Захапленне вучняў тэнісам прыйшло, вядома, ад настаўнікаў. Настаўнікі гміны падзяліліся на дзве каманды — „Поўдзень“ і „Поўнач“. Сустрэчы адбываюцца рэгулярна. Сёлета запланаваны 6 разоў. Да гэтага часу найчасцей выйгрывала „Поўнач“ з Трасцянкай і Іванкамі. На пачатку кастрычніка выйграла

(Працяг на стар. 10)

НОВЫЯ ВЕРШЫ

**Віктар Швед**

### ВОСЕНІ ПЛАДЫ

Сонечны асенні ранак,
Дзьмухнуў вецярок пявучы,
З дрэваў падаюць каштаны,
Панцыр скінуўшы калючы.

Колькі ж іх чырванабокіх
Спачывае ў дрэваў ценю!
Школьнікі ідуць на ўрокі,
Іх збіраюць у кішэні.

Колькі ж сонейкам сагрэтых
Пад магутным старым дубам
Спіць у кругленькіх берэтах
Жалудоў — аж глянуць люба!

Іх таксама возьмуць дзеці.
Пасля ўрокаў, нечакана,
Зробяць многа розных рэчаў
З жалудоў тых і каштанаў.

### ВЕЦЕР ЛЁТАЕ ПА СВЕЦЕ

Неспакойны вецер
Лётае па свеце,
Гоніць, гоніць хмары
Па неба абшарах.
Калі злосны — шкоды
Шмат робіць заўсёды.
Ён магутнай жменяй
Дрэвы рве з карэннем.
Часам праз хвілінку
Дах сарве з будынку.
Дражніцца з ахвотай
Са старэнькім плотам,
Ды ў канцы ад стомы
Рыне ў комін дома.
Прыносіў калісьці
Ён многа карысці,
Дзьмухаў з цэлай сілы
Вятракам у крылы
І малоў ён зёрны
На смачны хлеб чорны.

### КАЛЬКУЛЯТАР

Сёння ў магазіне тата
Купіў Ваню калькулятар.
Ён задачы ўсе рашае,
Дадае і адымае,
Дзеліць, а таксама множыць
Матэматык той прыгожы.
Адазвалася Ануся:
— Многа пальчыкаў мець мусіць
Калькулятар, не іначай,
Як рашае так задачы.

### БУДЗІЛЬНІК ЗВОНІЦЬ НЕ ДЛЯ ЛЁНІ

Гнеўна настаўніца пытае
Лёню гарэзу-абібока:
— Ці ты будзільніка не маеш,
Што ўсё спазняешся на ўрокі?

Адказвае на гэта Лёня:
— Прызнацца хіба сёння мушу,
Калі будзільнік моцна звоніць
Хаваю пад падушку вушы.

### ПАЖАР

Сёння ў хаце ў нас крамола:
Двойку брат прынёс са школы.
Спрэчка ўспыхнула раптоўна,
Крыку ў хаце поўна-поўна.
Мама Колю лае, лае,
Ён ад сораму згарае.
Полымя шугае гневу
І направа, і налева,
Справа выглядае марна,
Трэба выклікаць пажарных.



© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

# У НАШАЙ ГРАМАДЦЫ

**Падручнік беларускай мовы для пятага класа**
**Аўтары: Лідзія Гайдук — Мікалай Гайдук**

### ДРУГАГОДНІК

Міколка ўсю зіму
Вучыўся дрэнна ў школе,
А ўсё таму,
Што некалі было Міколу
Урокі, як належыць, рыхтаваць.
Прабегае ўвесь вольны час
без перапынку,
А потым пазаймаецца гадзінку
Дый... хочацца ўжо спаць...

У выніку такіх „турбот"
Мікола на другі застаўся год...

За лета ён выдатна адпачнуў.
У школу зноў ісці
пара настала.
Праводзячы яго,
матуля так сказала:
— Глядзі ж, сыночак мой,
каб год не прамінуў,
Як і мінулы, упустую!
— Цяпер абавязкова
перайду я! —
Мікола хараҳорыўся ў адказ.
— І не хвалюйцеся вы, мама,
Я ж гэту самую праграму
Праходзіў ужо раз.

Упэўненасць —
карысная для справы,
Калі на гэта ёсць падставы,
А без падстаў
яна прыносіць толькі брак.

І зноў усю зіму
Мікола не стараўся,
Рабіў урокі абы-як, —
На леташнія веды спадзяваўся...

Па вуліцы ўжо закрочыў
сакавік.
Мікола ж так бяздзейнічаць
прывык,
Што пэўна б і на трэці год
застаўся,
Каб за Міколу
клас не ўзяўся,
І каб не стала маці
болей строгай.
Ды ледзьве-ледзьве,
з дапамогай,
Мікола ў клас наступны
перабраўся.

* * *

Я школьнікам усім,
сваім сябрам,
Параду дам:
У класе два гады
не заставайся!
А калі здарыўся ўжо гэты грэх,
Дык на мінулае
не спадзявайся,
Вучыся добра і старайся,
Каб не зрабіць яшчэ
адзін агрэх.

**Уладзімір Корбан**

*1. Што аўтар верша гаворыць пра тое:*
а. чаму Міколка застаўся на другі год у тым самым класе?
б. што ён казаў сваёй маці на пачатку новага навучальнага года?
в. як Міколка займаўся на другі год у тым самым класе?
г. што пагражала зноў бездаказнаму вучню?
д. хто і як дапамог Міколку перайсці ў наступны клас?
е. што раіць аўтар школьнікам?
*2. Вызначце тэму гэтай байкі.*

## ПАЗНАЁМІМСЯ

* * *

БССР, 224023, г. Брэст, вул. Арлоўская, 14„Д", кв. 86. Аўдзеюк Валянціне. 7 клас.

* * *

СССР, 347600, Ростовская обл., г. Сальск, ул. Бородина, 46. Ивановой Ире. 9 клас.

* * *

СССР, 344065, г. Ростов-на-Дону, ул. Вятская, 102/102, кв. 87. Леуцкой Ольге. 14 год.

* * *

СССР, 346501, Ростовская обл., г. Новошахтинск, ул. Изотова, 4. Вакаловой Оксане. 6 клас.

* * *

СССР, 347600, г. Сальск, Ростовской обл., ул. Кутузова, 10. Остапченко Лене. 9 клас.

* * *

СССР, 344020, г. Ростов-на-Дону, 2 пос. Орджоникидзе, 1 угловой проезд, 23б. Калашниковой Марине. 5 клас.

* * *

СССР, 344065, г. Ростов-на-Дону, ул. Вятская, 102/103, кв. 71. Ракша Евгении. 9 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Волаха, 3, к. 2, кв. 16. Наташа Смычкова, 3 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Р. Люксембург, 3-А, кв. 73. Іра Ламака, 3 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. К. Лібкнехта, 92, кв. 71. Оля Сачаво, 2 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул К. Лібкнехта, 92, кв. 73. Аксана Рудзікава, 2 клас.

* * *

БССР, 220060, г. Мінск-60, вул. Лермантава, 23, кв. 8. Віталь Каваленка, 6 клас.

* * *

БССР, 220060, г. Мінск-60, вул. Р. Люксембург, 116, кв. 140. Андрэй Садоўскі, 6 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, пер Волаха, 12, кв. 17. Валя Лосева, 2 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Волаха, 7, к. 1, кв. 26. Оля Сафроненка, 2 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Волаха, 7, к. 1, кв. 26. Іра Сафроненка, 2 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. К. Лібкнехта, 55, кв. 31. Наташа Зеленская, 2 клас.

(Працяг са стар. 9)

## ДРУЖНЫЯ Ў ПРАЦЫ І Ў ГУЛЬНІ

каманда „Поўдня" з Крыўцом і Ласінкай. Цяпер ужо невядома, хто мацнейшы. Тым цікавей. А галоўнае, што сустрэчы вучняў і настаўнікаў розных школ вельмі ўзбагачаюць школьнае жыццё, яднаюць вучняў і настаўнікаў, спаўняюць не адно важнае выхаваўчае заданне.

Цяпер вучні марацъ аб летніх начлегах у лесе, у палатках, аб вячэрніх вогнішчах, абмяркоўваюць, як лепш арганізаваць іх на будучы год. Маладыя настаўнікі ж, аб'яднаныя ў гуртку ЗСМП, ужо плануюць супольны для ўсёй гміны настаўніцкі сплыў па Нарве на каяках ад Рыбакоў аж да Янова.

А пакуль што — час працы і вучобы. Канец паўгоддзя ўжо недалёка. А тым часам у школе адбываюцца розныя ўрачыстасці, сустрэчы з нагоды розных гадавін. Нядаўна гарцэры ўдзельнічалі ў адкрыцці помніка героям у Гайнаўцы, потым была сустрэча з міліцыянерам, урачыстасць з нагоды Дня Войска Польскага і Дня настаўніка. Час ужо падумаць аб праграме на ёлку. А потым пачнуцца школьныя беларускія конкурсы, у якіх школа у Крыўцы таксама мае сур'ёзны намер выступіць.

Адным словам, працы цікавай многа. Думаю, што дзеці самі напішуць у „Зорку", што ў іх найцікавей выходзіць.

**Яніна Чэрнякевіч**
**Фота аўтара**




Найбольш актыўныя гарцэры Аня Кавальская і Аліцыя Шчурак з дружыновым Раманам Внучко ля гарцэрскага стэнду.

## ПІШУЦЬ ШКОЛЬНІКІ

### ДАРАГАЯ „ЗОРКА"!

*Мы вучымся ў Падставовай школе ў Орлі. У нашым класе чатырнаццаць вучняў і ўсе мы вывучаем беларускую мову. У новым навучальным годзе ўсе мы падпісаліся на „Ніву". Чытаем мы яе на ўроках і дома. У гэтым годзе мы вучымся ў вельмі цяжкіх умовах. Школа нашая месціцца ў чатырох будынках, і вучымся мы на дзве змены. Вучняў другога і трэцяга класаў давозяць вучыцца ў вёску Крывая.*

*У верасні распачалася ў нас будова новай школы. Мы рады, што хоць нашыя маладыя сябры будуць вучыцца ў новай прасторнай школе.*

*У гэты Міжнародны год міру мы жадаем, каб на ўсім свеце працвітаў мір, каб мы маглі спакойна вучыцца, а краіна наша — будавацца.*

*Шлем Табе, „Зорка", самыя найлепшыя пажаданні.*

**Вучні сёмага класа. Орля**

**Пімен Панчанка**

### КСЮША

Ксюшачка, Ксюшачка,
Вось табе падушачка.
Дарагой маёй дзяўчынцы
Пазбіралі па пярынцы
Тыя гусі белыя,
Што па лузе бегалі.
Ты заснеш, ты заснеш
На сваёй падушачцы.
І не думай у сне
З гусаком падужацца.

**Іван Чарнецкі**

### ЦЁПЛЫ СМЕХ

Лесам, полем зайка бег,
Нёс ён смеху поўны мех.

Спатыкнуўся — і на снег
Высыпаўся цёплы смех.

І з пагоркаў да ракі
Паліліся ручайкі.

**З украінскай мовы пераклаў В. Жуковіч**

### АДГАДАНКА



Які з гэтых чатырох кружочкаў трэба ўставіць у пусты кружок на карцінцы?


Адрас рэдакцыі: „Зорка" 15-959 Białystok, ul Wesołowskiego 1

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

Змяшчаем словы песні, якую вы пачуеце ў беларускай перадачы па Беластоцкім радыё ў суботу 25 кастрычніка а 18-й гадзіне.

## КВЕТКА ШЧАСЦЯ

Кветка-папараць не дзіўнае паданне,
Гэта песня пра маё к табе каханне.
Кветку-папараць, павер, табе знайду я
І той кветкаю цябе я зачарую.

Прыпеў:

Я даўно шукаю кветку,
Што цвіце Купаллем ўлетку
Для цябе, для цябе.
Для цябе аб гэтым мару,
Для цябе той кветкі чары,
Для цябе, для цябе.
А пакуль хаджу адзін я і шукаю,
Усё блукаю, ўсё пытаю, ўсё пытаю.
І знайду той цвет цудоўнаю парою
Толькі б ты была, любімая, са мною.

Прыпеў.

З суседскага агародчыка

## ШЧАСЦЕ

Які мужчына не хоча быць шчаслівым! Якая ж жанчына гэтага таксама не прагне! Але вось, дзе ж шукаць яго, шчасця?

Кажуць: пацярпі, пачакай...

Мая чакала шчасця нештодзённага, незвычайнага. А гады беглі адзін за адным. Здараліся забавы, вясёлыя сустрэчы, але незвычайнага шчасця нідзе не было відно.

Мая цярпела, чакала і пачынала траціць надзею.

Аднойчы пачуўся стук у дзверы. Мая пабегла адчыняць і спачатку расчаравалася, бо гэта быў сусед Юхан, які даўно да яе заляцаўся. Аднак цяпер ён настойліва пасватаўся, і ў Маі пачалося шчаслівае сямейнае жыццё.

**Вэла ПАЕ**

— Затое мы цяпер ведаем месцы, дзе няма грыбоў.

# НАУКА

## СМЕЛЫ ЧАЛАВЕК

Адзін чалавек хваліўся сваёй смеласцю. Але гаварылі заўсёды з недамоўкамі.

— Ты ж смелы, — сказалі яму. — Ці ж ты не ведаеш, што калі нехта сказаў „А", дык павінен сказаць і „Б"?

— Ведаю, — кіўнуў галавою смяльчак і сказаў: — АБ...

## ПАСЛУХМЯНАЯ

Сустрэліся двое сяброў. Адзін пачаў хваліцца:

— Антось, ты нават уявіць не можаш, якая ў мяне паслухмяная жонка. Хопіць толькі крыкнуць: „Цёплай вады!"... І наказ уміг выконваецца.

— А навошта табе цёплая вада?! — здзівіўся Антось.

— Хіба ж я вымыю посуд халоднай вадою?

## СПЯВАК

— Ведаеце, як я пачаў спяваць на тэлебачанні, колькасць прададзеных тэлевізараў павялічылася ў два разы!

— Та-а-ак... Я таксама прадаў свой.

## САКРЭТ

— Чаму жанчыны-лёгкаатлеткі бегаюць павольней ад мужчын?

— Выключна з какецтва, каб публіка магла лепш іх разгледзець.

Я гатовы цаніць чалавека вышэй, чым ён гэтага заслугоўвае, калі ён лічыць мяне разумнейшым, чым я з'яўляюся на самай справе.

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

У кафэ дзяўчына гаворыць сваёй сяброўцы:

— Глядзі, як галубіцца ў тым кутку Анэтэ са сваім трэцім мужам...

Тут падышоў Кіндзюліс і заўважыў:

— Вось будзе шуму, калі даведаецца чацвёрты!

*

Вадзіцель старога драндулета звяртаецца да аўтамеханіка:

— Скажыце, ці не пара мне змяніць масла?

— Хочаце добрую параду, мсье? — гаворыць механік. — пакіньце масла старое, але змяніце машыну.

*

Званок у паліцыю.

— Тэрмінова нарад на бульвар Капуцынак, дом пяць, пяты паверх, налева. Жонка б'е мужа чым папала, і той страшна крычыць.

— Выклік прыняты. Нарад высылаем. А вы што, сусед?

— Не. Я муж.

## МІНІВЕРШЫ

**А хай не лезе...**

Прыходзіць мужык
„пад мухай"
З разбітым носам і вухам.
Жонка у слёзы:
— Ой, Вася!
Хто табе нос так расквасіў?
А той бадзёра ў адказ:
— Ён не палезе што раз...

**Міхась Скрыпка**

З „Весніка Задрыпоніі"

## СТАРАЯ ХВАРОБА

Нямала голаў у вароты каманды „Пэгла" сапернікі забілі непасрэдна са штрафных удараў. Няўменне правільна і своечасова паставіць сценку — старая хвароба іграком каманды, касцяк якой складаюць муляры.

## У ЛІТСУПОЛЦЫ

У літсуполцы „Гара" палічылі амаральным учынак паэта Ціхманкевіча, які зарыфмаваў „любоў" і „зноў".

— Я ж папярэджвала, экспанаты кранаць рукамі нельга.

— Мая паклонніца села не на тую грыбуну...

# Курёзы

## КРАСАМОЎНАЯ АРЫФМЕТЫКА

Рэспубліка Гаіці — краіна бедная. А для Злучаных Штатаў — гэта не такі ўжо і далёкі свет: з Фларыды, напрыклад, за дзве гадзіны самалётам перапырхнеш. Ды і морам дабрацца — не праблема. Таму кемлівыя амерыканскія бізнесмены ахвотна размяшчаюць на Гаіці свае прадпрыемствы. Асабліва іх прываблівае тое, што рабочая сіла там вельмі танная. Рабочы дзень на тамашніх амерыканскіх прадпрыемствах трывае дванаццаць гадзін, значыць 720 хвілін. З іх рабочы-гаіцянін, калі глянуць на яго заробак, працуе на сябе роўна шэсць хвілін. Рэшту 714 хвілін ён трудзіцца на амерыканскага „дабрадзея-работадаўца".

## З КНІГІ ГІНЕСА

Артылерыст англійскай воінскай часці ў Дортмундзе (ФРГ) Борніш на працягу 159-ці гадзін хадзіў па крузе на спартыўнай пляцоўцы і прайшоў агульную адлегласць за гэты час 650 кіламетраў.

Смяе, з намі

Калі няма сумлення, з'яўляецца жаданне ім гандляваць.

© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020